*ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

# АБ УСЕАГУЛЬНЫМ ВОІНСКІМ АБАВЯЗКУ І ВАЕННАЙ СЛУЖБЕ

## РАЗДЗЕЛ I. Агульныя палажэнні

**Артыкул 1. Усеагульны воінскі абавязак**

Абарона Рэспублікі Беларусь адносіцца да важнейшых функцый дзяржавы і з'яўляецца справай усіх грамадзян Рэспублікі Беларусь. Абарона Айчыны — свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.

Усеагульны воінскі абавязак — канстытуцыйны абавязак грамадзян Рэспублікі Беларусь. Ён не распаўсюджваецца на замежных грамадзян, якія пражываюць на яе тэрыторыі, і асоб без грамадзянства.

Выкананне гэтага Закона ўскладаецца на грамадзян Рэспублікі Беларусь, органы дзяржаўнай улады і кіравання, прадпрыемствы, установы і арганізацыі незалежна ад форм уласнасці і ўмоў гаспадарання.

Усеагульны воінскі абавязак і ваенная служба грамадзян рэспублікі ўстанаўліваюцца ў мэтах падрыхтоўкі насельніцтва да абароны рэспублікі і забеспячэння камплектавання Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь і іншых воінскіх фарміраванняў.

Усеагульны воінскі абавязак прадугледжвае падрыхтоўку грамадзян да ваеннай службы, прыём дапрызыўнікаў на воінскі ўлік, прызыў на ваенную або альтэрнатыўную службу, праходжанне ваеннай або альтэрнатыўнай службы, службу ў запасе, выкананне правіл воінскага ўліку.

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь мужчынскага полу, якія знаходзяцца за межамі рэспублікі, па дасягненні прызыўнога ўзросту абавязаны прыбыць у ваенныя камісарыяты Рэспублікі Беларусь для вырашэння пытання аб прызыве на ваенную службу.

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь выконваюць усеагульны воінскі абавязак з пачатку праходжання падрыхтоўкі да ваеннай службы да выключэння з воінскага ўліку незалежна ад паходжання, сацыяльнага і маёмаснага становішча, расавай і нацыянальнай прыналежнасці, адукацыі, мовы, адносін да рэлігіі, роду і характару заняткаў, палітычных і іншых перакананняў.

Парадак праходжання грамадзянамі Рэспублікі Беларусь альтэрнатыўнай службы вызначаецца заканадаўствам.

У адносінах да ўсеагульнага воінскага абавязку грамадзяне падраздзяляюцца на:

дапрызыўнікаў — юнакоў, якія праходзяць падрыхтоўку да ваеннай службы да прыпіскі да прызыўных участкаў;

прызыўнікоў — асоб, прыпісаных да прызыўных участкаў;

ваеннаслужачых — асоб, якія праходзяць ваенную службу;

ваеннаабавязаных — асоб, якія знаходзяцца ў запасе;

неваеннаабавязаных — асоб, не прынятых на воінскі ўлік або выключаных з воінскага ўліку, у тым ліку і пераведзеных у адстаўку.

Ваеннаслужачыя і ваеннаабавязаныя ў залежнасці ад прысвоеных ім воінскіх званняў падраздзяляюцца на наступныя склады: салдаты і матросы; сяржанты і старшыны; прапаршчыкі і мічманы; афіцэры.

Афіцэрскі склад падраздзяляецца на малодшых, старшых і вышэйшых афіцэраў.

Юнакі, якія дасягнулі прызыўнога ўзросту, падлягаюць прызыву на ваенную (альтэрнатыўную) службу. У сувязі з гэтым яны абавязаны прыбываць у ваенны камісарыят для:

прыпіскі да прызыўнога ўчастка;

праходжання медыцынскага агляду і пераагляду;

накіравання на падрыхтоўку для атрымання ваенна-тэхнічнай спецыяльнасці;

праходжання падрыхтоўкі да ваеннай службы;

прызыву на ваенную (альтэрнатыўную) службу.

Жанчыны, якія не маюць дзяцей і атрымалі падрыхтоўку па спецыяльнасцях, неабходных для Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь і іншых воінскіх фарміраванняў, падлягаюць воінскаму ўліку. Гэтыя асобы абавязаны прыбываць у ваенны камісарыят для праходжання медыцынскага агляду і пераагляду і выконваць правілы воінскага ўліку. Пералік спецыяльнасцей, па якіх ажыццяўляецца воінскі ўлік жанчын, што маюць адпаведныя спецыяльнасці, вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь. У мірны час жанчыны могуць добраахвотна паступіць на ваенную службу. У ваенны час па рашэнню Урада Рэспублікі Беларусь жанчыны, якія знаходзяцца на воінскім уліку, могуць быць прызваны на ваенную службу.

**Артыкул 2. Ваенная служба і служба ў запасе**

Ваенная служба — гэта асобы від дзяржаўнай службы, якая заключаецца ў непасрэдным выкананні грамадзянамі Рэспублікі Беларусь канстытуцыйнага абавязку ў складзе Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь і іншых воінскіх фарміраванняў.

Устанаўліваюцца наступныя віды ваеннай службы:

тэрміновая ваенная служба салдат, матросаў, сяржантаў і старшын;

ваенная служба салдат, матросаў, сяржантаў і старшын па кантракту;

ваенная служба курсантаў ваенна-вучэбных устаноў (у гэтым і наступным артыкулах пад ваенна-вучэбнымі ўстановамі маюцца на ўвазе сярэднія і вышэйшыя ваенныя вучылішчы, ваенныя інстытуты, ваенныя факультэты пры грамадзянскіх вышэйшых навучальных установах, ваенныя акадэміі);

ваенная служба прапаршчыкаў і мічманаў па кантракту;

ваенная служба афіцэраў па прызыву і кантракту.

Служба ў запасе заключаецца ў выкананні парадку і правіл воінскага ўліку, праходжання збораў і прызыву па мабілізацыі.

Грамадзяне, упершыню прызваныя або прынятыя на ваенную службу, прымаюць ваенную прысягу на вернасць народу Рэспублікі Беларусь. Ваеннаабавязаныя, не прымаўшыя ваенную прысягу, а таксама ваеннаабавязаныя, раней прымаўшыя ваенную прысягу на вернасць народу СССР, прымаюць ваенную прысягу на вернасць народу Рэспублікі Беларусь у воінскай часці пры аб'яўленні поўнай або частковай мабілізацыі.

Тэкст ваеннай прысягі зацвярджаецца Вярхоўным Саветам, а Палажэнне аб парадку прыняцця ваеннай прысягі — Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Зыходзячы з высокіх дзяржаўных мэт, што заключаюцца ў забеспячэнні бяспекі і незалежнасці дзяржавы, устанаўліваецца прыярытэт ваеннай службы перад іншымі відамі дзяржаўнай службы і працоўнай дзейнасці, які выражаецца ў спыненні грамадзянамі работы, вучобы, службы і іншай дзейнасці на прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях незалежна ад форм уласнасці і ўмоў гаспадарання пры прызыве або добраахвотным паступленні на ваенную службу.

**Артыкул 3. Камплектаванне Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь і іншых воінскіх фарміраванняў**

Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь і іншыя воінскія фарміраванні камплектуюцца ваеннаслужачымі шляхам:

прызыву грамадзян на ваенную службу на аснове ўсеагульнага воінскага абавязку;

прыёму грамадзян, якія добраахвотна паступаюць на ваенную службу.

Для даўкамплектавання Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь і іншых воінскіх фарміраванняў па мабілізацыі і забеспячэння іх патрэбнасці на ваенны час ствараецца запас асабовага складу з ваеннаабавязаных.

Сістэма камплектавання Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь і іншых воінскіх фарміраванняў ваеннаслужачымі вызначаецца гэтым Законам і рашэннямі Урада Рэспублікі Беларусь, якія прымаюцца ў адпаведнасці з ім.

**Артыкул 4. Воінскія званні**

Кожнаму ваеннаслужачаму і ваеннаабавязанаму прысвойваецца адпаведнае воінскае званне. Воінскія званні падраздзяляюцца на вайсковыя і карабельнага складу.

Устанаўліваюцца наступныя воінскія званні:

| Вайсковыя | Карабельнага складу |
|---|---|
| **Салдаты і матросы** | |
| радавы (курсант) | матрос (курсант) |
| яфрэйтар | старшы матрос |
| **Сяржанты і старшыны** | |
| малодшы сяржант | старшына 2-й стацці |
| сяржант | старшына 1-й стацці |
| старшы сяржант | галоўны старшына |
| старшына | галоўны карабельны старшына |
| **Прапаршчыкі і мічманы** | |
| прапаршчык | мічман |
| старшы прапаршчык | старшы мічман |
| **Малодшыя афіцэры** | |
| малодшы лейтэнант | малодшы лейтэнант |
| лейтэнант | лейтэнант |
| старшы лейтэнант | старшы лейтэнант |
| капітан | капітан-лейтэнант |
| **Старшыя афіцэры** | |
| маёр | капітан 3 рангу |
| падпалкоўнік | капітан 2 рангу |
| палкоўнік | капітан 1 рангу |
| **Вышэйшыя афіцэры** | |
| генерал-маёр | |
| генерал-лейтэнант | |
| генерал-палкоўнік | |

Для ваеннаслужачых, што праходзяць службу ў гвардзейскіх злучэннях і часцях, на гвардзейскіх караблях, устанаўліваюцца распазнавальныя гвардзейскія воінскія званні, якія ўтвараюцца шляхам дабаўлення перад адпаведным воінскім званнем слова «гвардыі».

Да воінскіх званняў грамадзян, якія знаходзяцца ў запасе, дабаўляецца слова «запасу», а да воінскіх званняў грамадзян, якія знаходзяцца ў адстаўцы, — «у адстаўцы».

Воінскія званні ваеннаслужачым, якія займаюць пасады, што падлягаюць камплектаванню вышэйшымі афіцэрамі, прысвойваюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Прысваенне іншых воінскіх званняў ваеннаслужачым і ваеннаабавязаным праводзіцца ў парадку, які вызначаецца палажэннямі аб праходжанні ваеннай службы адпаведнымі складамі ваеннаслужачых (ваеннаабавязаных), што зацвярджаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Грамадзяне, якія маюць воінскія званні (акрамя тых, што маюць воінскія званні радавога або матроса, прапаршчыка або мічмана, малодшага лейтэнанта), могуць быць паніжаны ў воінскім званні на адну ступень.

Пазбаўленне воінскага звання праводзіцца:

пры асуджэнні за ўчыненае злачынства — па прыгавору суда;

за ўчыненне праступкаў, якія знеслаўляюць гонар воінскага звання.

Пазбаўленне воінскага звання не цягне за сабой пазбаўлення або абмежавання пенсіённага забеспячэння.

Асобы, пазбаўленыя воінскага звання, могуць быць адноўлены ў воінскім званні. Аднаўленне ў воінскім званні праводзіцца службовымі асобамі (органамі), якія прынялі рашэнне аб пазбаўленні воінскага звання.

Паніжэнне ў воінскім званні на адну ступень і аднаўленне ў воінскім званні пасля паніжэння, а таксама пазбаўленне воінскага звання праводзяцца: вышэйшых афіцэраў — Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, іншых ваеннаслужачых, а таксама ваеннаабавязаных — у парадку, які вызначаецца палажэннямі аб праходжанні ваеннай службы адпаведнымі складамі ваеннаслужачых (ваеннаабавязаных).

Асобам, якія маюць спецыяльныя званні сярэдняга, старшага і вышэйшага начальніцкага складу органаў унутраных спраў і не маюць воінскіх званняў афіцэрскага складу, прызначаюцца на ваенную службу для выкарыстання на пасадах афіцэрскага складу або назначаны на гэтыя пасады, прысвойваецца першае воінскае званне афіцэрскага складу, роўнае наяўнаму ў іх спецыяльнаму званню.

**Артыкул 5. Воінскія пасады**

Воінскія пасады (штатныя пасады, што падлягаюць замяшчэнню ваеннаслужачымі) і адпаведныя гэтым пасадам воінскія званні, якія могуць быць прысвоены ваеннаслужачым, што займаюць гэтыя пасады, прадугледжваюцца ў штатах воінскіх часцей (караблёў, органаў кіравання, устаноў, ваенна-вучэбных устаноў) на падставе спецыяльных пералікаў.

Пералікі пасад, якія падлягаюць замяшчэнню асобамі вышэйшага афіцэрскага складу, зацвярджаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, а пералікі пасад, якія падлягаюць замяшчэнню іншымі складамі ваеннаслужачых, — Міністрам абароны Рэспублікі Беларусь.

Воінскія пасады падраздзяляюцца на пасады афіцэраў, прапаршчыкаў і мічманаў, сяржантаў і старшын, салдат і матросаў.

Назначэнне Міністра абароны Рэспублікі Беларусь праводзіцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. Назначэнне ваеннаслужачых на воінскія пасады, якія падлягаюць замяшчэнню вышэйшым афіцэрскім складам, праводзіцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Міністра абароны Рэспублікі Беларусь. Правы службовых асоб па назначэнню на іншыя воінскія пасады вызначаюцца Міністрам абароны Рэспублікі Беларусь.

Камплектаванне ваеннай пракуратуры і ваеннага трыбунала праводзіцца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Ваеннаслужачыя з ліку народных дэпутатаў могуць быць пакінуты на ваеннай службе.

Ваеннаслужачыя могуць займаць пасады ў органах дзяржаўнай улады і кіравання, на дзяржаўных прадпрыемствах, ва ўстановах і ў арганізацыях з вызваленнем ад займаемых ва ўзброеных сілах пасад і пакіданнем на ваеннай службе.

**Артыкул 6. Ваенная форма адзення і знакі адрознення ваеннаслужачых**

Ваеннаслужачыя, а таксама ваеннаабавязаныя на зборах носяць ваенную форму адзення са знакамі адрознення па воінскаму званню і роду войск (службе).

Ваенная форма адзення і знакі адрознення ваеннаслужачых зацвярджаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, а правілы іх нашэння вызначаюцца загадам Міністра абароны Рэспублікі Беларусь.

Нашэнне ваеннай формы адзення са знакамі адрознення ваеннаслужачых асобамі, якія не маюць на гэта права, забараняецца і праследуецца па закону.

## РАЗДЗЕЛ II. Падрыхтоўка грамадзян да ваеннай службы

**Артыкул 7. Падрыхтоўка дапрызыўнікаў і прызыўнікоў да ваеннай службы**

З дапрызыўнікамі і прызыўнікамі, прыгоднымі па стану здароўя да ваеннай службы, праводзіцца падрыхтоўка, якая ўключае падрыхтоўку прызыўнікоў па ваенна-тэхнічных спецыяльнасцях, фізічную падрыхтоўку, лячэбна-аздараўленчую работу, ваенна-патрыятычнае выхаванне.

Падрыхтоўка дапрызыўнікаў і прызыўнікоў да ваеннай службы ажыццяўляецца ў рамках Дзяржаўнай праграмы падрыхтоўкі моладзі да ваеннай службы, якая зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Фінансаванне, матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне, стварэнне вучэбна-матэрыяльнай базы і ўтрыманне спецыялістаў, кантроль за арганізацыяй і правядзеннем падрыхтоўкі дапрызыўнікаў і прызыўнікоў да ваеннай службы, праграмнае і метадычнае забеспячэнне ажыццяўляюцца ў парадку, які вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 8. Падрыхтоўка прызыўнікоў па ваенна-тэхнічных спецыяльнасцях**

Да абучэння па ваенна-тэхнічных спецыяльнасцях прыцягваюцца прызыўнікі, якія дасягнулі 17-гадовага ўзросту, прыгодны па стану здароўя да ваеннай службы і падлягаюць прызыву на ваенную службу пасля заканчэння абучэння.

Колькасць прызыўнікоў, якія падлягаюць падрыхтоўцы па ваенна-тэхнічных спецыяльнасцях, пералік спецыяльнасцей, праграма падрыхтоўкі, а таксама парадак яе арганізацыі вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 9. Ваенная падрыхтоўка студэнтаў у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах па праграме афіцэраў запасу**

Ваенная падрыхтоўка студэнтаў у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах па праграме афіцэраў запасу, якая зацвярджаецца Міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь, арганізуецца і праводзіцца на ваенных кафедрах. Ваенную падрыхтоўку па праграме афіцэраў запасу праходзяць студэнты-мужчыны ва ўзросце да 27 гадоў, якія навучаюцца па дзённай форме навучання і прыгодны да ваеннай службы па стану здароўя, а прайшоўшыя тэрміновую ваенную службу — па жаданню. Па некаторых ваенна-ўліковых спецыяльнасцях такую падрыхтоўку могуць праходзіць і студэнты-жанчыны.

Пералік вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў і ваенныя спецыяльнасці, па якіх праводзіцца ваенная падрыхтоўка афіцэраў запасу на ваенных кафедрах, зацвярджаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па сумеснаму прадстаўленню Міністэрства абароны і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Студэнтам, якія прайшлі курс ваеннай падрыхтоўкі па праграме афіцэраў запасу і здалі ўстаноўленыя экзамены, прысвойваецца воінскае званне «лейтэнант» («малодшы лейтэнант»).

Грамадзяне, якія не прайшлі да паступлення ў вышэйшую, сярэднюю спецыяльную навучальную ўстанову тэрміновую ваенную службу і не атэставаны па яе заканчэнні на ваеннай кафедры ў афіцэрскі склад, прызываюцца на тэрміновую службу ў парадку, устаноўленым гэтым Законам.

Ваенныя кафедры з'яўляюцца структурнымі падраздзяленнямі навучальных устаноў. Ваенная падрыхтоўка ўключаецца ў навучальныя планы як самастойная вучэбная дысцыпліна.

Міністэрствы, дзяржаўныя камітэты і ведамствы, у веданні якіх знаходзяцца вышэйшыя навучальныя ўстановы, пры садзейнічанні Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь ствараюць неабходную вучэбна-матэрыяльную базу, удзельнічаюць у падборы і падрыхтоўцы выкладчыцкага складу ваенных кафедраў, ажыццяўляюць кантроль за правядзеннем ваеннай падрыхтоўкі студэнтаў, нясуць адказнасць за яе стан.

Пры праходжанні вучэбных збораў на студэнтаў распаўсюджваюцца правы і абавязкі, устаноўленыя гэтым Законам.

**Артыкул 10. Лячэбна-аздараўленчая работа**

Лячэбна-аздараўленчая работа з юнакамі арганізуецца і праводзіцца па месцы іх жыхарства, вучобы або работы органамі і ўстановамі аховы здароўя выканаўчых камітэтаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў у лячэбна-прафілактычных і лячэбна-аздараўленчых установах са стварэннем у іх падлеткавых кабінетаў.

Медыцынскія агляды юнакоў 14—17-гадовага ўзросту праводзяцца штогод урачамі-спецыялістамі. Маючым патрэбу назначаецца неабходнае лячэнне.

**Артыкул 11. Правы і абавязкі грамадзян, якія прыцягваюцца да падрыхтоўкі на ваенную службу**

За грамадзянамі, якія прыцягваюцца да падрыхтоўкі на ваенную службу з адрывам ад вытворчасці, на час абучэння, уключаючы праезд да месца вучобы (збораў) і назад, калі гэта звязана з выездам з пастаяннага месца жыхарства, захоўваюцца месцы работы, займаемая пасада і выплачваецца сярэдні заработак па месцы работы. Вылічэнне прызыўнікам сярэдняга заработку праводзіцца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Прадпрыемствы, установы і арганізацыі (наймальнікі), у якіх працуюць грамадзяне, што прыцягваюцца да падрыхтоўкі на ваенную службу, незалежна ад форм уласнасці і ўмоў гаспадарання аплачваюць расходы па найму жылля на перыяд іх вучобы (збораў), а таксама кошт праезду да месца вучобы (збораў) і назад па нормах, устаноўленых для службовых камандзіровак.

Прызыўнікам, якія не працуюць або займаюцца прадпрымальніцтвам без утварэння юрыдычнай асобы, прыцягваюцца да абучэння па ваенна-тэхнічных спецыяльнасцях, выканаўчыя камітэты мясцовых Саветаў народных дэпутатаў па месцы жыхарства выплачваюць стыпендыю ў памерах, устаноўленых для навучэнцаў прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў, а таксама аплачваюць расходы па найму жылля і кошт праезду да месца вучобы і назад па нормах, устаноўленых для службовых камандзіровак.

Наведванне заняткаў прызыўнікамі, якія прыцягваюцца для абучэння па ваенна-тэхнічных спецыяльнасцях, з'яўляецца абавязковым. Прызыўнікі, якія не наведваюць заняткаў без уважлівых прычын, нясуць адказнасць, устаноўленую дзеючым заканадаўствам.

## РАЗДЗЕЛ III. Прыпіска грамадзян да прызыўных участкаў. Прызыў і паступленне ў добраахвотным парадку на ваенную службу

**Артыкул 12. Прыпіска грамадзян да прызыўных участкаў**

Юнакі ў год дасягнення імі 17-гадовага ўзросту падлягаюць прыпісцы да прызыўных участкаў, якія ствараюцца ў раёнах і гарадах.

Прыпіска да прызыўных участкаў праводзіцца штогод ў студзені—красавіку па месцы жыхарства.

Дапрызыўнікі, якія падлягаюць прыпісцы да прызыўнога ўчастка, абавязаны з'явіцца ў ваенны камісарыят і прад'явіць неабходныя дакументы. Пералік дакументаў, якія прадстаўляюцца дапрызыўнікамі, вызначаецца Міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь і ўказваецца ў персанальнай павестцы ваеннага камісарыята.

Дапрызыўнікі пры прыпісцы да прызыўнога ўчастка з мэтай вызначэння прыгоднасці да ваеннай службы падлягаюць абавязковаму медыцынскаму агляду ўрачамі-спецыялістамі: хірургам, тэрапеўтам, неўрапатолагам, псіхіятрам, акулістам, оталарынголагам, стаматолагам і пры неабходнасці ўрачамі іншых спецыяльнасцей.

Кіраўнікі прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў незалежна ад форм уласнасці і ўмоў гаспадарання штогод у тэрміны, што ўстанаўліваюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, прадстаўляюць у адпаведныя раённыя (гарадскія) ваенныя камісарыяты спісы асоб, якія падлягаюць прыпісцы да прызыўных участкаў.

Для правядзення прыпіскі дапрызыўнікаў да прызыўных участкаў у раённых (гарадскіх) ваенных камісарыятах ствараюцца камісіі ў наступным складзе:

старшыня камісіі:

раённы (гарадскі) ваенны камісар;

члены камісіі:

урачы-спецыялісты, якія ўдзельнічаюць у медыцынскім аглядзе дапрызыўнікаў;

начальнік групы прафесіянальнага псіхалагічнага адбору раённага (гарадскога) ваеннага камісарыята.

Персанальны склад камісіі па прыпісцы зацвярджаецца выканаўчым камітэтам раённага (гарадскога) Савета народных дэпутатаў.

На камісіі па прыпісцы дапрызыўнікаў да прызыўных участкаў ускладаюцца:

арганізацыя медыцынскага агляду дапрызыўнікаў і вызначэнне папярэдняга прызначэння іх для выкарыстання на ваеннай службе;

папярэдні адбор на добраахвотнай аснове кандыдатаў для накіравання ў ваенна-вучэбныя ўстановы;

рацыянальнае размеркаванне асоб, прыгодных па медыцынскіх, псіхалагічных і іншых паказаннях для падрыхтоўкі па ваенна-тэхнічных спецыяльнасцях;

прымацаванне да лячэбна-прафілактычных і лячэбных устаноў асоб, якія маюць патрэбу ў абследаванні, лячэнні і медыцынскім наглядзе.

Грамадзянам, прыпісаным да прызыўных участкаў, аб'яўляецца рашэнне камісіі, выдаецца пасведчанне прызыўніка, растлумачваюцца іх правы і абавязкі, правілы воінскага ўліку і парадак праходжання падрыхтоўкі да ваеннай службы.

Дапрызыўнікі за ўхіленне ад прыпіскі да прызыўнога ўчастка нясуць адказнасць у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

**Артыкул 13. Прызыўныя камісіі**

Для правядзення прызыву грамадзян на тэрміновую ваенную службу ў раённых (гарадскіх) ваенных камісарыятах ствараюцца прызыўныя камісіі ў складзе:

старшыня камісіі:

раённы (гарадскі) ваенны камісар;

члены камісіі;

намеснік старшыні выканаўчага камітэта раённага (гарадскога) Савета народных дэпутатаў;

намеснік начальніка аддзела (начальнік аддзялення) унутраных спраў выканаўчага камітэта раённага (гарадскога) Савета народных дэпутатаў;

урач, які кіруе работай урачоў-спецыялістаў і сярэдняга медыцынскага персаналу па медыцынскаму агляду прызыўнікоў.

Акрамя таго, у рабоце камісіі могуць удзельнічаць народныя дэпутаты.

Персанальны склад прызыўной камісіі зацвярджаецца выканаўчым камітэтам адпаведнага Савета народных дэпутатаў. Яўка членаў прызыўной камісіі на яе пасяджэнні абавязковая.

На раённыя (гарадскія) прызыўныя камісіі ўскладаюцца:

арганізацыя медыцынскага агляду прызыўнікоў;

прыняцце рашэння аб прызыве грамадзян на тэрміновую ваенную (альтэрнатыўную) службу і прызначэнні іх для выкарыстання на ваеннай службе;

прыняцце рашэння аб месцы праходжання тэрміновай ваеннай службы прызыўнікамі, якія знаходзяцца ў шлюбе, з улікам месца пражывання прызыўніка;

прадастаўленне адтэрміноўкі ад прызыву або вызваленне ад прызыву на тэрміновую ваенную (альтэрнатыўную) службу на падставах, прадугледжаных гэтым Законам;

прыняцце рашэння аб накіраванні прызыўнікоў, якія выказалі жаданне паступіць у ваенна-вучэбныя ўстановы, для здачы ўступных экзаменаў або аб адмове гэтым асобам у накіраванні іх на экзамены;

прыняцце рашэння аб накіраванні пракурору раёна (горада) матэрыялаў на прызыўнікоў, якія ўхіляюцца ад прызыву на тэрміновую ваенную службу.

Усе грамадзяне, якія прызываюцца на ваенную (альтэрнатыўную) службу, праходзяць абавязковы медыцынскі агляд урачамі-спецыялістамі: хірургам, тэрапеўтам, неўрапатолагам, псіхіятрам, акулістам, оталарынголагам, стаматолагам і пры неабходнасці ўрачамі іншых спецыяльнасцей.

У адпаведнасці з вынікамі медыцынскага агляду прызыўніка, з улікам яго маральных і прафесіянальных якасцей, адукацыі, а таксама матэрыяльнага становішча членаў яго сям'і раённая (гарадская) прызыўная камісія выносіць адно з наступных рашэнняў і аб'яўляе яго прызыўніку аб:

прыгоднасці да ваеннай (альтэрнатыўнай) службы і прызыве на ваенную (альтэрнатыўную) службу з прызначэннем у пэўны від узброеных сіл (род войск) або іншыя воінскія фарміраванні;

часовай непрыгоднасці да ваеннай (альтэрнатыўнай) службы па стану здароўя;

прадастаўленні адтэрміноўкі або вызваленні ад прызыву на тэрміновую ваенную (альтэрнатыўную) службу на падставах, прадугледжаных артыкуламі 15 і 16 гэтага Закона;

непрыгоднасці па стану здароўя да ваеннай (альтэрнатыўнай) службы ў мірны час, абмежаванай прыгоднасці ў ваенны час і залічэнні ў запас;

непрыгоднасці да ваеннай (альтэрнатыўнай) службы з выключэннем з воінскага ўліку.

Старшыня і члены прызыўной камісіі, урачы, якія ўдзельнічаюць у медыцынскім аглядзе прызыўнікоў, а таксама іншыя асобы, што дапусцілі злоўжыванні або нядобрасумленныя адносіны да выканання ўскладзеных на іх абавязкаў, прыцягваюцца да адказнасці ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

Рашэнне прызыўной камісіі прымаецца большасцю галасоў ад яе складу.

Для кіраўніцтва раённымі (гарадскімі) прызыўнымі камісіямі і кантролю за іх дзейнасцю ў абласцях ствараюцца адпаведныя абласныя прызыўныя камісіі ў наступным складзе:

старшыня камісіі;

абласны ваенны камісар;

члены камісіі;

намеснік старшыні выканаўчага камітэта абласнога (Мінскага гарадскога) Савета народных дэпутатаў;

намеснік начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў выканаўчага камітэта абласнога (Мінскага гарадскога) Савета народных дэпутатаў;

намеснік начальніка ўпраўлення (аддзела) аховы здароўя выканаўчага камітэта абласнога (Мінскага гарадскога) Савета народных дэпутатаў.

Персанальны склад абласной прызыўной камісіі зацвярджаецца выканаўчым камітэтам адпаведнага абласнога Савета народных дэпутатаў.

На абласныя прызыўныя камісіі ўскладаюцца:

арганізацыя медыцынскага агляду прызваных на тэрміновую ваенную (альтэрнатыўную) службу перад адпраўкай іх у воінскія часці;

кантрольны медыцынскі агляд асоб, якія заявілі аб нязгодзе з вынікамі медыцынскага агляду і рашэннем раённай (гарадской) прызыўной камісій.

Рашэнні раённых (гарадскіх) прызыўных камісій абскарджваюцца ў абласную прызыўную камісію.

Абласныя прызыўныя камісіі маюць права пераглядаць і адмяняць рашэнні раённых (гарадскіх) прызыўных камісій.

Рашэнні абласных прызыўных камісій могуць быць абскарджаны ў судовым парадку.

Абскарджанне прызыўнікамі і іншымі асобамі рашэння абласной прызыўной камісіі ў судовым парадку не прыпыняе выканання гэтага рашэння.

**Артыкул 14. Прызыўны ўзрост. Прызыў грамадзян на тэрміновую ваенную службу**

На тэрміновую ваенную службу ў мірны час прызываюцца грамадзяне Рэспублікі Беларусь ва ўзросце ад 18 да 27 гадоў.

Прызыў грамадзян на тэрміновую ваенную службу праводзіцца на падставе пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь два разы ў год: у красавіку — чэрвені і кастрычніку — снежні. Пастанова аб'яўляецца сродкамі масавай інфармацыі.

Пасля аб'яўлення пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь кожны прызыўнік у месячны тэрмін абавязаны з'явіцца ў ваенны камісарыят для прызыву на тэрміновую ваенную (альтэрнатыўную) службу.

Кіраўнікі прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый незалежна ад форм уласнасці і ўмоў гаспадарання абавязаны вызваліць прызыўнікоў ад работы на час, неабходны для правядзення прызыву, адклікаць іх з камандзіровак і забяспечыць своечасовае прыбыццё прызыўнікоў на прызыўны пункт.

Уважлівымі прычынамі няяўкі на прызыўныя пункты прызнаюцца:

хвароба грамадзяніна, якая пазбавіла яго магчымасці асабістай яўкі на прызыўны пункт;

смерць або цяжкая хвароба блізкага сваяка, якая патрабуе догляду з боку прызыўніка;

перашкода стыхійнага характару або іншыя абставіны, якія не залежаць ад грамадзяніна і пазбавілі яго магчымасці асабіста з'явіцца ў ваенны камісарыят.

Прычыны няяўкі павінны быць пацверджаны дакументамі адпаведных кампетэнтных органаў.

Прызыву на тэрміновую ваенную службу не падлягаюць грамадзяне:

прызнаныя па стану здароўя непрыгоднымі да ваеннай службы ў мірны час;

якія адбываюць крымінальнае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі або папраўчых работ, — да адбыцця пакарання;

якія адбылі пакаранне за ўчыненне цяжкага крымінальнага злачынства ў папраўча-працоўных установах;

умоўна-датэрмінова вызваленыя ад назначанага судом пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі або папраўчых работ, — на працягу неадбытай часткі пакарання;

у адносінах да якіх судом прыменены прымусовыя меры медыцынскага характару, — на працягу тэрміну дзеяння гэтых мер;

у адносінах да якіх вядзецца дазнанне або следства або крымінальная справа разглядаецца судом, да вырашэння іх справы органамі ўнутраных спраў, пракуратуры або суда.

**Артыкул 15. Адтэрміноўка ад прызыву на тэрміновую ваенную службу**

Адтэрміноўка ад прызыву на тэрміновую ваенную службу прадастаўляецца:

па сямейнаму становішчу;

па стану здароўя;

для прадаўжэння адукацыі;

для атрымання ваенна-тэхнічных спецыяльнасцей;

у сувязі з дэпутацкай дзейнасцю.

Адтэрміноўка ад прызыву на тэрміновую ваенную службу па сямейнаму становішчу прадастаўляецца асобам, якія маюць:

непрацаздольных бацьку і маці або адзінокіх непрацаздольных бацьку або маці*;

жонку, якая знаходзіцца ў водпуску па цяжарнасці і родах;

адно дзіця ва ўзросце да трох гадоў, двух або больш дзяцей ці жонку — інваліда I або II групы;

адзінокую працаздольную маці (бацьку), якая (які) мае двух або больш дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў і не мае іншых працаздольных дзяцей;

аднаго або больш родных братоў і сясцёр ва ўзросце да 16 гадоў або старэйшых за 16 гадоў, але пры ўмове, што яны з'яўляюцца навучэнцамі сярэдніх агульнаадукацыйных школ, прафесіянальна-тэхнічных і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў або інвалідамі I або II групы, пры адсутнасці іншых асоб, якія маглі б узяць іх на ўтрыманне.

Адтэрміноўка ад прызыву на тэрміновую ваенную службу па сямейнаму становішчу прадастаўляецца прызыўнікам да 27-гадовага ўзросту. Калі гэтыя асобы да 27-гадовага ўзросту не страцяць права на адтэрміноўку, то ў мірны час яны вызваляюцца ад тэрміновай ваеннай службы і залічваюцца ў запас.

Асобы, прызнаныя часова непрыгоднымі да ваеннай службы ў мірны час, перыядычна праходзяць медыцынскі агляд ваенна-ўрачэбнымі камісіямі пры ваенных камісарыятах да дасягнення імі 27-гадовага ўзросту і ў выпадку прызнання іх прыгоднымі да ваеннай службы прызываюцца на тэрміновую ваенную службу на агульных падставах. Асобы, прызнаныя непрыгоднымі да ваеннай службы ў мірны час і абмежавана прыгоднымі ў ваенны час, залічваюцца ў запас, а непрыгодныя да ваеннай службы з выключэннем з воінскага ўліку выключаюцца з воінскага ўліку.

Адтэрміноўка ад прызыву на тэрміновую ваенную службу для прадаўжэння адукацыі прадастаўляецца:

студэнтам дзённых аддзяленняў вышэйшых навучальных устаноў;

студэнтам вячэрніх і завочных аддзяленняў вышэйшых навучальных устаноў да заканчэння бягучага курса навучання. Асобы, выключаныя з вышэйшых навучальных устаноў, страчваюць права на паўторную адтэрміноўку для прадаўжэння адукацыі;

слухачам падрыхтоўчых аддзяленняў вышэйшых навучальных устаноў да заканчэння навучання;

навучэнцам сярэдніх агульнаадукацыйных школ, прафесіянальна-тэхнічных і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, уключаючы вячэрняе і завочнае навучанне, да іх заканчэння.

Адтэрміноўка ад прызыву на тэрміновую ваенную службу для атрымання ваенна-тэхнічных спецыяльнасцей прадастаўляецца юнакам, якія дасягнулі 18-гадовага ўзросту і абучаюцца ў вучэбных арганізацыях, на ўвесь перыяд абучэння.

Адтэрміноўка ад прызыву ў сувязі з дэпутацкай дзейнасцю прадастаўляецца прызыўнікам з ліку народных дэпутатаў на тэрмін іх дэпутацкіх паўнамоцтваў.

Прызыўнікі, страціўшыя падставы для атрымання адтэрміноўкі, а таксама асобы, якія не маюць права на адтэрміноўку або падстаў для вызвалення ад прызыву, прадугледжаных артыкулам 16 гэтага Закона, не прызваны па розных прычынах на тэрміновую ваенную службу ва ўстаноўленыя тэрміны, павінны быць прызваны пры правядзенні чарговага прызыву.

**Артыкул 16. Вызваленне ад прызыву на тэрміновую ваенную службу**

Ад прызыву на тэрміновую ваенную службу вызваляюцца грамадзяне:

у мірны і ваенны час — якія знаходзяцца на службе ў органах міліцыі і ваенізаванай пажарнай аховы Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, а таксама залічаныя на вучобу ў вучэбныя ўстановы гэтага міністэрства;

у мірны час — родныя браты якіх загінулі або памерлі ў перыяд праходжання тэрміновай ваеннай службы. Прызыўнікі, якія маюць права на вызваленне ад прызыву на гэтай падставе, могуць быць прызваны на тэрміновую ваенную службу па іх жаданню.

**Артыкул 17. Прызыў на ваенную службу афіцэраў запасу**

Афіцэры запасу ва ўзросце да 27 гадоў, якія не прайшлі тэрміновай ваеннай службы, могуць быць прызваны ў мірны час па рашэнню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь для выкарыстання на пасадах афіцэрскага складу.

Колькасць афіцэраў запасу, якія падлягаюць прызыву на ваенную службу, устанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 18. Прыём (паступленне) на ваенную службу**

Грамадзяне, якія адпавядаюць устаноўленым патрабаванням ваеннай службы, могуць добраахвотна паступаць і быць прыняты на ваенную службу па кантракту:

на пасады салдат, матросаў, сяржантаў і старшын:

ваеннаслужачыя тэрміновай службы, якія праслужылі па прызыву не менш шасці месяцаў;

ваеннаабавязаныя ва ўзросце ад 20 да 35 гадоў;

жанчыны, якія не маюць дзяцей, ва ўзросце ад 19 да 35 гадоў;

на пасады прапаршчыкаў і мічманаў:

ваеннаслужачыя тэрміновай службы, якія праслужылі не менш аднаго года;

ваеннаслужачыя, якія праходзяць службу па кантракту на пасадах салдат, матросаў, сяржантаў і старшын;

ваеннаабавязаныя (акрамя афіцэраў запасу) ва ўзросце ад 20 да 35 гадоў і жанчыны, якія не маюць дзяцей, ва ўзросце ад 19 да 35 гадоў;

на пасады афіцэраў:

афіцэры запасу ва ўзросце да 30 гадоў.

Грамадзяне, якія прымаюцца на ваенную службу, праходзяць абавязковы медыцынскі агляд.

Пры прыёме на ваенную службу паміж упаўнаважанымі на тое дзяржаўнымі органамі і грамадзянінам заключаецца кантракт. Парадак і ўмовы заключэння кантракта вызначаюцца Палажэннем аб ваеннай службе па кантракту, якое зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 19. Матэрыяльнае забеспячэнне грамадзян у сувязі з прызывам або прыёмам на ваенную службу**

Грамадзянам, прызваным або прынятым на ваенную службу, выплачваецца па месцы работы (вучобы) выхадная дапамога ў памеры двухтыднёвай сярэдняй заработнай платы.

Грамадзяне вызваляюцца ад работы (вучобы) на час, неабходны для прыпіскі да прызыўных участкаў, афармлення прызыву або прыёму на ваенную службу, пастаноўкі або зняцця з воінскага ўліку, з захаваннем за імі сярэдняга за-

* У выпадку, калі бацькі не маюць іншых працаздольных асоб, абавязаных у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам утрымліваць іх незалежна ад таго, пражываюць яны разам з імі або асобна.

Непрацаздольнымі бацькамі лічацца:

бацька, старэйшы за 60 гадоў, і маці, старэйшая за 55 гадоў;

бацька і маці — інваліды I або II групы незалежна ад узросту.

(Працяг на 3-й стар.).

## ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# АБ УСЕАГУЛЬНЫМ ВОІНСКІМ АБАВЯЗКУ І ВАЕННАЙ СЛУЖБЕ

(Працяг. Пачатак на 2-й стар.).

работку (стыпендыі) па месцы пастаяннай работы (вучобы).

Грамадзянам, допушчаным да здачы ўступных экзаменаў у ваенна-вучэбныя ўстановы, прадастаўляецца час для праезду да месца здачы экзаменаў і назад і для здачы ўступных экзаменаў з захаваннем пасады і сярэдняга заработку па месцы пастаяннай работы.

Грамадзянам, якія накіроўваюцца на дыспансернае або стацыянарнае абследаванне (лячэнне, медыцынскі агляд), на ўвесь час знаходжання ў медыцынскай установе захоўваюцца месца работы (вучобы), займаемая пасада і сярэдні заработак (стыпендыя), а таксама кампенсуюцца ваенным камісарыятам расходы па праезду да месца абследавання (лячэння, медыцынскага агляду) і назад па нормах, устаноўленых Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Перавозка да месца службы і забеспячэнне харчаваннем на шляху руху грамадзян, прызваных або прынятых на ваенную службу, перавозка грамадзян да месца здачы ўступных экзаменаў у ваенна-вучэбныя ўстановы і назад праводзяцца за кошт сродкаў Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 20. Адказнасць грамадзян за ўхіленне ад прызыву на ваенную службу**

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь за ўхіленне ад прызыву на тэрміновую ваенную службу нясуць крымінальную адказнасць у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Адказнасць за ўхіленне ад прызыву на ваенную службу прызыўнікоў і ваеннаабавязаных настае ў выпадку няяўкі ў ваенны камісарыят без уважлівай прычыны (частка пятая артыкула 14 гэтага Закона) у тэрміны, устаноўленыя гэтым Законам або павесткай ваеннага камісарыята, у тым ліку і для адпраўкі ў воінскія часці.

## РАЗДЗЕЛ IV. Праходжанне ваеннай службы

**Артыкул 21. Парадак праходжання ваеннай службы**

Парадак праходжання ваеннай службы грамадзянамі Рэспублікі Беларусь вызначаецца гэтым Законам, іншымі заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь, агульнавоінскімі статутамі, у тым ліку палажэннямі аб праходжанні ваеннай службы, якія зацвярджаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 22. Гранічныя ўзросты знаходжання на ваеннай службе**

Гранічныя ўзросты знаходжання на ваеннай службе ўстанаўліваюцца для асоб:

радавога, сяржанцкага і старшынскага складу тэрміновай службы — 29 гадоў;

ваеннаслужачых, якія праходзяць службу па кантракту, на пасадах радавога, сяржанцкага і старшынскага складу, прапаршчыкаў і мічманаў — 45 гадоў;

малодшага афіцэрскага складу — 43 гады;

старшага афіцэрскага складу: маёраў, падпалкоўнікаў і да іх роўных — 45 гадоў, палкоўнікаў і да іх роўных — 50 гадоў;

вышэйшага афіцэрскага складу: генерал-маёраў, генерал-лейтэнантаў — 55 гадоў, генерал-палкоўнікаў — 60 гадоў.

Асобныя ваеннаслужачыя з ліку старшага і вышэйшага афіцэрскага складу могуць быць пакінуты на ваеннай службе на тэрмін да 5 гадоў у наступным парадку:

да падпалкоўнікаў уключна — рашэннем Міністра абароны Рэспублікі Беларусь;

палкоўнікі і асобы вышэйшага афіцэрскага складу — рашэннем Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 23. Тэрміны ваеннай службы**

Для ваеннаслужачых устанаўліваюцца наступныя тэрміны ваеннай службы:

якія праходзяць тэрміновую ваенную службу;

не маюць вышэйшай адукацыі,— 18 месяцаў;

маюць вышэйшую адукацыю,— 12 месяцаў;

якія праходзяць ваенную службу па кантракту на пасадах:

салдат, матросаў, сяржантаў і старшын,— 2 гады;

прапаршчыкаў і мічманаў, — 5 гадоў;

афіцэраў,— 5 гадоў па першаму кантракту пасля заканчэння ваенна-вучэбнай установы;

для афіцэраў, прызваных або прынятых у добраахвотным парадку на ваенную службу з запасу,— 2 гады.

Ваеннаслужачыя тэрміновай службы, якія перайшлі на ваенную службу па кантракту, пры датэрміновым скасаванні кантракта (акрамя выпадкаў, прадугледжаных у артыкуле 26: па хваробе; па скарачэнню штатаў — пры немагчымасці выкарыстання на службе ў сувязі са скарачэннем штатаў або арганізацыйнымі мерапрыемствамі; па сямейнаму становішчу і іншых абставінах, якія перашкаджаюць выкананню абавязкаў ваеннай службы,— па просьбе ваеннаслужачага) час праходжання службы па кантракту ў тэрмін тэрміновай ваеннай службы не залічваецца.

Для асоб, якія праходзяць ваенную службу па кантракту, ваенная служба можа быць прадоўжана па заканчэнні тэрміну службы па нанава заключанаму кантракту на тэрмін не менш 3 гадоў кожны раз да дасягнення гранічнага ўзросту знаходжання на ваеннай службе.

Тэрмін службы для ваеннаслужачых тэрміновай службы, якія адбывалі пакаранне ў дысцыплінарных часцях, вызначаецца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

**Артыкул 24. Пачатак і заканчэнне знаходжання на ваеннай службе**

Пачаткам знаходжання на ваеннай службе лічыцца:

для прызыўнікоў — дзень яўкі ў ваенны камісарыят для адпраўкі ў воінскую часць;

для ваеннаабавязаных, прызваных або прынятых на ваенную службу непасрэдна пасля заканчэння вышэйшых або сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў,— дзень адбыцця ў водпуск, прадастаўлены ваенным камісарыятам;

для курсантаў — дзень залічэння ў спісы асабовага складу вучылішча курсантам;

для ваеннаслужачых, залічаных на ваенную службу па кантракту на пасады салдат, матросаў, сяржантаў і старшын з ліку ваеннаслужачых тэрміновай службы,— дзень залічэння ў спісы асабовага складу часці (установы);

для афіцэраў запасу, прынятых на ваенную службу, і для ваеннаабавязаных, залічаных кандыдатамі ў прапаршчыкі і мічманы на ваенную службу па кантракту,— дзень адбыцця да месца службы, указаны ў прадпісанні ваеннага камісарыята.

Заканчэннем знаходжання на ваеннай службе лічыцца дзень, у які ваеннаслужачы загадам камандзіра воінскай часці выключаны са спісаў асабовага складу ў сувязі са звальненнем.

**Артыкул 25. Ваенная служба курсантаў ваенна-вучэбных устаноў**

На ваенную службу курсантамі ваенна-вучэбных устаноў на конкурснай аснове прымаюцца грамадзяне ва ўзросце ад 17 гадоў да 21 года, у тым ліку якія дасягаюць 17-гадовага ўзросту ў год залічэння на вучобу, а таксама ваеннаслужачыя і ваеннаабавязаныя, што не маюць воінскіх званняў афіцэраў, ва ўзросце ад 18 да 23 гадоў.

Грамадзянам, якія не маюць воінскага звання да паступлення ў ваенна-вучэбныя ўстановы або мелі воінскае званне радавога, матроса, яфрэйтара, старшага матроса, пры залічэнні на вучобу прысвойваецца воінскае званне «курсант». Іншыя воінскія званні, прысвоеныя да паступлення ў ваенна-вучэбныя ўстановы, захоўваюцца.

Ваеннаслужачыя (акрамя афіцэраў), якія абучаюцца ў ваенна-вучэбных установах, называюцца курсантамі.

Парадак праходжання ваеннай службы курсантамі рэгламентуецца гэтым Законам, воінскімі статутамі, Палажэннем аб ваенна-вучэбных установах.

Курсанты, якія праходзяць ваенную службу, карыстаюцца правамі, ільготамі і перавагамі:

не прайшоўшыя тэрміновай ваеннай службы або праслужыўшыя на гэтай службе, уключаючы і ваенную службу курсантаў, менш 18 месяцаў,— нараўне з ваеннаслужачымі тэрміновай службы;

выслужыўшыя ўстаноўленыя тэрміны тэрміновай ваеннай службы, уключаючы і ваенную службу курсантаў, а таксама паступіўшыя на вучобу са службы па кантракту з пасад салдат, матросаў, сяржантаў і старшын,— нараўне з ваеннаслужачымі, што праходзяць службу па кантракту на ўказаных пасадах;

з ліку прапаршчыкаў і мічманаў, а таксама ўсе курсанты пасля пераводу на чацвёрты курс — нараўне з прапаршчыкамі і мічманамі.

З курсантамі пасля трэцяга курса абучэння ў індывідуальным парадку заключаецца кантракт аб праходжанні імі пасля заканчэння ваенна-вучэбнай ўстановы ваеннай службы на пасадах афіцэрскага складу тэрмінам на 5 гадоў. Курсанты, якія не заключылі такі кантракт, выключаюцца з ваенна-вучэбных устаноў.

Курсанты звальняюцца ў запас:

калі яны па стану здароўя прызнаны непрыгоднымі да ваеннай службы;

выключаныя за непаспяховасць, нежаданне вучыцца, недысцыплінаванасць, калі яны раней адслужылі тэрміновую ваенную службу;

якія не заключылі кантракт аб праходжанні службы афіцэрам, калі яны раней адслужылі тэрміновую ваенную службу;

якія не адслужылі тэрміновую ваенную службу,— пасля трэцяга курса абучэння.

Курсанты, якія не праходзілі тэрміновай ваеннай службы і выключаны з ваенна-вучэбных устаноў да заканчэння трэцяга курса, накіроўваюцца ў воінскія часці да праходжання тэрміновай ваеннай службы:

з першага курса абучэння на тэрмін 18 месяцаў;

з другога або трэцяга курса абучэння на тэрмін 12 месяцаў.

**Артыкул 26. Звальненне з ваеннай службы**

Звальненне з ваеннай службы праводзіцца:

у запас — калі ваеннаслужачыя не дасягнулі гранічнага ўзросту знаходжання ў запасе і па стану здароўя прыгодныя да ваеннай службы ў мірны і ваенны час;

у адстаўку — калі ваеннаслужачыя дасягнулі гранічнага ўзросту знаходжання ў запасе або прызнаны ваенна-ўрачэбнымі камісіямі па стану здароўя непрыгоднымі да ваеннай службы з выключэннем з воінскага ўліку.

Ваеннаслужачыя, якія праходзяць тэрміновую ваенную службу, звальняюцца ў запас на падставе загада міністра абароны Рэспублікі Беларусь у тэрміны, устаноўленыя Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Ваеннаслужачыя тэрміновай службы звальняюцца з ваеннай службы датэрмінова:

па стану здароўя — на падставе пастаноў ваенна-ўрачэбных камісій аб непрыгоднасці да ваеннай службы;

па сямейнаму становішчу — пры ўзнікненні ў іх у выніку змянення сямейнага становішча права на адтэрміноўку (артыкул 15) або вызваленне ад прызыву (артыкул 16);

у сувязі з асуджэннем судом за ўчыненае злачынства да пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўча-працоўнай установе.

У выпадку неабходнасці грамадзяне, якія выслужылі ўстаноўленыя тэрміны тэрміновай ваеннай службы, могуць быць затрыманы на ваеннай службе:

рашэннем Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь на тэрмін да двух месяцаў;

рашэннем Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь на тэрмін да шасці месяцаў.

Ваеннаслужачыя тэрміновай службы пры звальненні ў запас забяспечваюцца спраўным абмундзіраваннем па пераліку, які ўстанаўліваецца Міністрам абароны Рэспублікі Беларусь, праязнымі дакументамі да месца жыхарства, харчаваннем на час праезду да месца жыхарства і аднаразовай грашовай дапамогай.

Па жаданню ваеннаслужачых яны могуць быць звольнены ў запас ва ўласным цывільным адзенні.

Ваеннаслужачыя, якія праходзяць службу па кантракту, могуць быць звольнены з ваеннай службы:

па ўзросту — пры дасягненні гранічнага ўзросту знаходжання на ваеннай службе (артыкул 22);

па выслузе гадоў, якая дае права на пенсіённае забеспячэнне;

па заканчэнні тэрміну службы, устаноўленага кантрактам;

па сямейнаму становішчу і іншых абставінах, якія перашкаджаюць выкананню абавязкаў ваеннай службы,— па просьбе ваеннаслужачага;

па хваробе;

па скарачэнню штатаў — пры немагчымасці выкарыстання на службе ў сувязі са скарачэннем штатаў або арганізацыйнымі мерапрыемствамі;

па службовай неадпаведнасці;

па хадайніцтву (прадстаўленню) таварыскага суда або афіцэрскага сходу за праступкі, якія дыскрэдытуюць воінскае званне;

у сувязі з асуджэннем судом за ўчыненае злачынства.

**Артыкул 27. Адказнасць ваеннаслужачых за ўхіленне ад ваеннай службы і іншыя злачынствы супраць устаноўленага парадку праходжання ваеннай службы**

Ваеннаслужачыя за ўхіленне ад ваеннай службы і іншыя злачынствы супраць устаноўленага парадку праходжання ваеннай службы нясуць крымінальную адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## РАЗДЗЕЛ V. Праходжанне службы ў запасе

**Артыкул 28. Залічэнне ў запас. Катэгорыі запасу**

Грамадзяне, звольненыя з ваеннай службы, акрамя выпадкаў звальнення па хваробе (артыкул 26), а таксама вызваленыя ад прызыву на тэрміновую ваенную службу, акрамя асоб, выключаных з воінскага ўліку па стану здароўя, залічваюцца ў запас.

Запас салдат, матросаў, сяржантаў, старшын, прапаршчыкаў і мічманаў дзеліцца на дзве катэгорыі — першую і другую.

Да запасу першай катэгорыі адносяцца ваеннаабавязаныя, якія праслужылі на ваеннай службе не менш аднаго года і атрымалі ў перыяд яе праходжання ваенна-ўліковую спецыяльнасць.

Да запасу другой катэгорыі адносяцца ваеннаабавязаныя, праслужыўшыя менш аднаго года тэрміновай ваеннай службы і не атрымаўшыя ваенна-ўліковай спецыяльнасці ў час праходжання тэрміновай ваеннай службы, а таксама грамадзяне, якія не прызываліся на тэрміновую ваенную службу і прыгодны па стану здароўя да ваеннай службы.

Ваеннаабавязаныя, якія знаходзяцца ў запасе другой катэгорыі і прайшлі вучэбныя зборы агульнай працягласцю не менш васьмі месяцаў, пераводзяцца ў запас першай катэгорыі.

Жанчыны, прынятыя на воінскі ўлік, знаходзяцца ў запасе другой катэгорыі.

Асобы, залічаныя ў запас, перыядычна праходзяць медыцынскі агляд. Пры гэтым ваеннаабавязаныя, перададзеныя ў запас па стану здароўя без праходжання ваеннай службы, у выпадку прызнання іх да дасягнення 27-гадовага ўзросту прыгоднымі да ваеннай службы вяртаюцца на ўлік прызыўнікоў і падлягаюць прызыву на тэрміновую ваенную службу на агульных падставах.

**Артыкул 29. Гранічныя ўзросты знаходжання ў запасе. Разрады запасу.**

Запас ваеннаабавязаных па ўзроставай прымеце дзеліцца на тры разрады. Гранічныя ўзросты знаходжання ў запасе трэцяга разраду з'яўляюцца гранічнымі ўзростамі знаходжання ў запасе.

Салдаты і матросы, сяржанты і старшыны, прапаршчыкі і мічманы знаходзяцца ў запасе да наступных гранічных узростаў:

першы разрад — да 35 гадоў;

другі разрад — 35—45 гадоў;

трэці разрад — 45—50 гадоў.

Афіцэры знаходзяцца ў запасе да наступных гранічных узростаў:

першы разрад:

малодшыя афіцэры — да 45 гадоў;

старшыя афіцэры ў воінскіх званнях маёра, падпалкоўніка і да іх роўных — да 50 гадоў, у воінскім званні палкоўніка і да яго роўных — да 55 гадоў;

вышэйшыя афіцэры — да 60 гадоў;

другі разрад:

малодшыя афіцэры — да 50 гадоў;

старшыя афіцэры, акрамя палкоўнікаў і да іх роўных,— да 55 гадоў;

трэці разрад:

малодшыя афіцэры — да 55 гадоў;

старшыя афіцэры — да 60 гадоў;

вышэйшыя афіцэры — да 65 гадоў.

Ваеннаабавязаныя жанчыны незалежна ад прысвоеных ім воінскіх званняў залічваюцца ў запас трэцяга разраду. Гранічны ўзрост знаходжання іх у запасе ўстанаўліваецца: 50 гадоў — для афіцэраў, 45 гадоў — для астатніх ваеннаабавязаных жанчын.

**Артыкул 30. Праходжанне збораў**

Зборы праводзяцца з мэтай падрыхтоўкі афіцэраў запасу на вышэйшыя пасады, удасканальвання ваенных ведаў і асваення ваеннаабавязанымі новых відаў зброі і тэхнікі, а таксама падрыхтоўкі спецыялістаў, неабходных для ўкамплектавання ўзброеных сіл па мабілізацыйнаму плану. Яны таксама праводзяцца з мэтай абслугоўвання ўзбраення і тэхнікі непарушнага запасу.

Ваеннаабавязаныя за час знаходжання ў запасе могуць быць прызваны на вучэбныя і паверачныя зборы.

Тэрміны і час правядзення збораў, а таксама ліміты прызыву ваеннаабавязаных і пастаўкі тэхнікі вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Агульны тэрмін збораў за час знаходжання ў запасе не можа перавышаць 12 месяцаў. Пры гэтым у агульны тэрмін збораў афіцэраў запасу залічваецца час знаходжання іх на зборах да прысваення воінскага звання.

Па рашэнню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ваеннаабавязаных могуць таксама прызывацца на спецыяльныя зборы на тэрмін да двух месяцаў для ўдзелу ў прадухіленні або ліквідацыі вынікаў стыхійных бедстваў, аварый і катастроф, пажараў, эпідэмій або эпізаотый, а таксама для рамонту і аднаўлення тэхнікі, якая прымала ўдзел ва ўказаных мерапрыемствах.

Правы і абавязкі ваеннаабавязаных, прызваных на зборы, устанаўліваюцца гэтым Законам, воінскімі статутамі і Палажэннем аб праходжанні збораў ваеннаабавязанымі, зацверджаным Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Ваеннаабавязаныя, прызваныя на зборы, забяспечваюцца ў час збораў натуральным і грашовым забеспячэннем у парадку і размерах, устаноўленых Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

За ваеннаабавязанымі, прызванымі на зборы, захоўваецца за ўвесь час збораў, уключаючы праезд да месца правядзення збораў і назад, займаемая пасада і выплачваецца па месцы работы сярэдні заработак.

Указаныя асобы не могуць быць звольнены па ініцыятыве адміністрацыі з дня атрымання павесткі аб прызыве да вяртання са збораў, акрамя выпадкаў ліквідацыі прадпрыемства, установы, арганізацыі.

Ваеннаабавязаныя з ліку кааператараў, арандатараў, асоб, якія займаюцца прадпрымальніцтвам без утварэння юрыдычнай асобы, а таксама асоб, што часова не працуюць, прызываюцца на зборы на агульных падставах.

Выплата кампенсацый гэтай катэгорыі грамадзян за перыяд праходжання збораў ажыццяўляецца:

кааператарам — кааператывам з разліку сярэдняй заработнай платы;

арандатарам і асобам, якія займаюцца прадпрымальніцтвам без утварэння юрыдычнай асобы,— мясцовымі органамі дзяржаўнага кіравання з разліку мінімальнай заработнай платы;

беспрацоўным — службай занятасці з разліку атрымліваемай дапамогі, але не менш чым з разліку мінімальнай заработнай платы. Час збораў выключаецца з 26-тыднёвага перыяду выплаты дапамогі службай занятасці;

непрацуючым — службай занятасці з разліку мінімальнай заработнай платы.

**Артыкул 31. Вызваленне ад праходжання збораў**

Ад праходжання збораў вызваляюцца:

ваеннаабавязаныя, забраніраваныя за прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі і навучальнымі ўстановамі;

кіраўнікі, спецыялісты, рабочыя і служачыя, якія працуюць у сістэме Міністэрства абароны, Камітэта дзяржаўнай бяспекі, Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, грамадзянскай абароны, пагранічных і чыгуначных войск;

кіраўнікі, лётны і тэхнічны склад, рабочыя і служачыя Упраўлення грамадзянскай авіяцыі, якія непасрэдна забяспечваюць перавозкі і заняты на абслугоўванні і рамонце самалётаў і аэрадромнай тэхнікі, а таксама вучэбных авіяцыйных цэнтраў абароннага спартыўна-тэхнічнага таварыства;

трактарысты, камбайнеры, фермеры і арандатары, якія працуюць у сельскай гаспадарцы, вадзіцелі транспартных сродкаў, занятыя перавозкай сельскагаспадарчай прадукцыі, асобы, занятыя рамонтам сельскагаспадарчай тэхнікі, дырэктары саўгасаў, старшыні калгасаў і брыгадзіры паляводчых брыгад калгасаў і саўгасаў у перыяд пасяўных і ўборачных сельскагаспадарчых работ;

педагагічны склад сярэдніх агульнаадукацыйных школ, вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, а таксама спецыялісты абароннага спартыўна-тэхнічнага таварыства, якія займаюцца падрыхтоўкай моладзі да ваеннай службы;

студэнты вышэйшых і навучэнцы сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, якія навучаюцца па дзённай і вячэрняй формах навучання, а студэнты і навучэнцы ўказаных навучальных устаноў, што навучаюцца па завочнай форме навучання,— на перыяд экзаменацыйных сесій;

ваеннаабавязаныя жанчыны;

звольненыя ў запас з ваеннай службы на працягу года;

ваеннаабавязаныя пры наяўнасці ў іх падстаў для прадастаўлення адтэрміноўкі ад прызыву па сямейнаму становішчу, стану здароўя або ў сувязі з дэпутацкай дзейнасцю (артыкул 15), а таксама якія маюць трох і больш дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў;

работнікі жывёлагадоўчых комплексаў (ферм).

У асобных выпадках пры наяўнасці ўважлівых прычын і прад'яўленні ваеннаабавязаным апраўдальных дакументаў рашэнне аб вызваленні ад праходжання збораў прымаецца раённым (гарадскім) ваенным камісарам.

**Артыкул 32. Прысваенне воінскіх званняў у запасе**

Ваеннаабавязаным, якія прайшлі вучэбныя зборы і паспяхова здалі залікі па праграме абучэння, могуць быць прысвоены ў запасе чарговыя воінскія званні ў адпаведнасці са службовым прызначэннем на ваенны час да палкоўніка і да яго роўнага (уключна) у парадку, што ўстанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 33. Перавод ваеннаабавязаных у адстаўку**

Ваеннаабавязаныя, якія дасягнулі гранічных узростаў знаходжання ў запасе, а таксама прызнаны ваенна-ўрачэбнымі камісіямі непрыгоднымі да ваеннай службы з выключэннем з воінскага ўліку, выключаюцца з воінскага ўліку і пераводзяцца ў адстаўку.

**Артыкул 34. Адказнасць ваеннаабавязаных за ўхіленне ад збораў і ўчыненне правапарушэнняў супраць устаноўленага парадку нясення ваеннай службы ў час збораў**

Ваеннаабавязаныя за ўхіленне ад збораў і ўчыненне імі правапарушэнняў супраць устаноўленага парадку нясення ваеннай службы ў час праходжання збораў нясуць адказнасць у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## РАЗДЗЕЛ VI. Воінскі ўлік ваеннаабавязаных і прызыўнікоў

**Артыкул 35. Агульныя правілы воінскага ўліку**

Усе ваеннаабавязаныя і прызыўнікі падлягаюць воінскаму ўліку. Воінскі ўлік ваеннаабавязаных і прызыўнікоў з'яўляецца агульнадзяржаўнай сістэмай уліку і аналізу наяўных у рэспубліцы прызыўных і ваеннаабучаных рэсурсаў. Сістэма воінскага ўліку ўвязваецца з сістэмай рэгістрацыі грамадзян. Функцыяніраванне сістэмы воінскага ўліку забяспечваецца органамі Міністэрства абароны, Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь і мясцовымі органамі дзяржаўнага кіравання.

Воінскі ўлік ваеннаабавязаных і прызыўнікоў на прадпрыемствах, ва ўстановах і ў арганізацыях вядзецца ў адпаведнасці з Інструкцыяй па воінскаму ўліку, зацверджанай Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Воінскі ўлік усіх ваеннаабавязаных падраздзяляецца на агульны, спецыяльны, персанальна-якасны і персанальна-першасны (персанальны).

**Артыкул 36. Агульны і спецыяльны ўлік**

На агульным воінскім уліку знаходзяцца ваеннаабавязаныя, не забраніраваныя за прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі на перыяд мабілізацыі і ваеннага часу, і прызыўнікі.

На спецыяльным воінскім уліку знаходзяцца ваеннаабавязаныя, якія ва ўстаноўленым парадку браніруюцца за прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі на перыяд мабілізацыі і ваеннага часу.

**Артыкул 37. Персанальна-якасны і персанальна-першасны (персанальны) ўлік**

Персанальна-якасны ўлік усіх ваеннаабавязаных і прызыўнікоў ускладаецца на раённыя (гарадскія) ваенныя камісарыяты.

Персанальна-першасны (персанальны) улік усіх ваеннаабавязаных і прызыўнікоў вядзецца ў сельскай мясцовасці, а таксама ў гарадах і пасёлках, дзе няма ваенных камісарыятаў, і ўскладаецца на выканаўчыя камітэты гарадскіх, пасялковых і сельскіх Саветаў народных дэпутатаў.

Персанальны ўлік ваеннаабавязаных і прызыўнікоў, якія працуюць і вучацца, вядзецца прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі незалежна ад форм уласнасці і ўмоў гаспадарання. Адначасова на іх ускладаецца ўнясенне прапаноў па браніраванню ваеннаабавязаных у сваіх інтарэсах.

Кіраўнікі прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый нясуць персанальную адказнасць за паўнату і якасць воінскага ўліку ваеннаабавязаных і прызыўнікоў і браніраванне ваеннаабавязаных.

**Артыкул 38. Воінскі ўлік грамадзян, якія пражываюць за мяжой**

Воінскі ўлік грамадзян Рэспублікі Беларусь, што пражываюць за мяжой, вядзецца дыпламатычнымі або консульскімі прадстаўніцтвамі Рэспублікі Беларусь, якія забяспечваюць прыбыццё грамадзян Рэспублікі Беларусь мужчынскага полу па дасягненні імі прызыўнога ўзросту ў ваенныя камісарыяты Рэспублікі Беларусь для прызыву на ваенную службу.

**Артыкул 39. Прыём на воінскі ўлік і зняцце з воінскага ўліку. Выключэнне з воінскага ўліку**

Для афармлення прыёму на воінскі ўлік усе ваеннаслужачыя, звольненыя ў запас, а таксама асобы, вызваленыя ад ваеннай службы і залічаныя ў запас, па прыбыцці да месца жыхарства абавязаны ў тыднёвы тэрмін асабіста з'явіцца ў адпаведныя ваенныя камісарыяты.

Ваеннаабавязаныя і прызыўнікі пры перамене месца жыхарства, адбыцці ў працяглыя службовыя камандзіроўкі, на вучобу, у водпуск або на лячэнне (на тэрмін звыш трох месяцаў) абавязаны зняцца з воінскага ўліку па месцы жыхарства, а па прыбыцці да новага месца жыхарства або месца камандзіроўкі, вучобы, правядзення водпуску або лячэння (на тэрмін звыш трох месяцаў) — стаць у тыднёвы тэрмін на воінскі ўлік.

Афіцэры запасу, а таксама прызыўнікі для зняцця з воінскага ўліку або прыёму на воінскі ўлік абавязаны асабіста з'явіцца ў раённыя (гарадскія) ваенныя камісарыяты.

У ваенны час выезд ваеннаабавязаных і прызыўнікоў з месца пастаяннага жыхарства без дазволу раённага (гарадскога) ваеннага камісара забараняецца.

Для зняцця з воінскага ўліку і афармлення прыёму на воінскі ўлік у выпадках, указаных у гэтым артыкуле, ваеннаабавязаныя абавязаны здаць жыллёва-эксплуатацыйнай арганізацыі або прадпрыемству, установе, арганізацыі, якія ажыццяўляюць эксплуатацыю дамоў, разам з пашпартам і ваенны білет. Ваеннаабавязаныя, якія выбылі з сельскай мясцовасці або прыбылі ў сельскую мясцовасць, а таксама гарадскія, рабочыя, курортныя пасёлкі, для зняцця (прыёму) з воінскага ўліку абавязаны асабіста з'явіцца з улікова-воінскімі дакументамі ў выканаўчы камітэт сельскага (пасялковага) Савета народных дэпутатаў.

Ваеннаабавязаныя абавязаны прыбываць у ваенны камісарыят для:

унясення ў ваенныя білеты змяненняў ваенна-ўліковых спецыяльнасцей і ўдакладнення ваенна-ўліковых даных;

прызыву на зборы;

медыцынскага пераагляду;

анкетавання і афармлення допуску да работы з дакументамі, узорамі тэхнікі і ўзбраення;

уручэння і адабрання мабілізацыйных прадпісанняў;

правядзення заняткаў (трэніровак) з апаратам узмацнення ваеннага камісарыята і правядзення мабілізацыйных мерапрыемстваў. Для выканання гэтых мерапрыемстваў могуць прыцягвацца і неваеннаабавязаныя грамадзяне.

Ва ўсіх выпадках пры выкліку грамадзян у ваенны камісарыят афармляецца павестка ўзору, устаноўленага Інструкцыяй па воінскаму ўліку, зацверджанай Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, у якой робіцца адзнака аб часе прыбыцця па выкліку, але не больш трох дзён па кожнай павестцы. Павестка падпісваецца ваенным камісарам і завяраецца пячаткай.

Афіцэры, звольненыя з ваеннай службы ў запас Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь з пагранічных войск, органаў дзяржаўнай бяспекі, унутраных войск, спецыяльных матарызаваных часцей міліцыі і часцей (падраздзяленняў) ваенізаванай пажарнай аховы Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, а таксама асобы вышэйшага, старшага і сярэдняга начальніцкага складу, якія маюць спецыяльныя званні, звольненыя з органаў Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, прымаюцца на воінскі ўлік у прысвоеных ім адпаведных званнях.

Асобы вышэйшага, старшага і сярэдняга начальніцкага складу, якія не маюць спецыяльных званняў і звольнены з органаў Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, застаюцца на ўліку ў органах Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.

Выключэнню з воінскага ўліку падлягаюць грамадзяне:

прызнаныя ўрачэбнымі камісіямі непрыгоднымі да ваеннай службы з выключэннем з воінскага ўліку;

якія дасягнулі гранічнага ўзросту знаходжання ў запасе;

прызваныя або прынятыя на ваенную службу;

залічаныя на службу пагранічныя войскі, органы Камітэта дзяржаўнай бяспекі і Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь;

ваеннаабавязаныя жанчыны, якія маюць дзяцей;

памёршыя.

**Артыкул 40. Абавязкі кіраўнікоў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, службовых асоб, ваеннаабавязаных і прызыўнікоў па выкананню правіл воінскага ўліку**

Прадпрыемствы, установы і арганізацыі незалежна ад форм уласнасці і ўмоў гаспадарання вядуць улік усіх ваеннаабавязаных і прызыўнікоў, якія працуюць (навучаюцца) на гэтых прадпрыемствах, ва ўстановах і ў арганізацыях, у адпаведнасці з правіламі, што ўстанаўліваюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь. Яны таксама абавязаны па патрабаванню ваенных камісарыятаў паведамляць ваеннаабавязаным і прызыўнікам аб іх выкліку ў ваенныя камісарыяты і забяспечваць своечасовую іх яўку па гэтаму выкліку.

Кіраўнікі прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў па запытах раённых (гарадскіх) ваенных камісарыятаў абавязаны прадстаўляць на грамадзян, якія прызываюцца або прымаюцца на ваенную службу ў добраахвотным парадку, пісьмовыя характарыстыкі.

Органы ўнутраных спраў абавязаны:

ажыццяўляць рэгістрацыю ваеннаабавязаных і прызыўнікоў па месцы жыхарства толькі пры наяўнасці ў іх улікова-воінскіх дакументах адзнак ваенных камісарыятаў адпаведна аб прыёме на воінскі ўлік або зняцці з яго;

праводзіць вышук і дастаўку ў ваенны камісарыят асоб, якія ўхіляюцца ад выканання ўсеагульнага воінскага абавязку;

забяспечваць ахову грамадскага парадку на:

абласных зборных пунктах і прызыўных пунктах раённых (гарадскіх) ваенных камісарыятаў у перыяд прызыву і адпраўкі прызыўнікоў на ваенную службу;

пунктах збору ваеннаабавязаных і тэхнікі ў перыяд адпраўкі іх на зборы і правядзення мабілізацыйных мерапрыемстваў.

Органы запісу актаў грамадзянскага стану абавязаны ў сямідзённы тэрмін паведамляць раённым (гарадскім) ваенным камісарыятам аб перамене ваеннаабавязанымі і прызыўнікамі прозвішча, імя, імя па бацьку, аб унясенні ў запісы актаў грамадзянскага стану змяненняў аб даце і месцы іх нараджэння, а таксама аб выпадках рэгістрацыі смерці ваеннаабавязанага або прызыўніка.

Органы дазнання і папярэдняга следства абавязаны ў сямідзённы тэрмін паведамляць аб прызыўніках, у адносінах да якіх вядзецца дазнанне або папярэдняе следства, а народныя суды — аб прызыўніках, крымінальная справа якіх разглядаецца судом, а таксама аб уступіўшых у законную сілу прыгаворах у адносінах да ваеннаабавязаных і прызыўнікоў у раённыя (гарадскія) ваенныя камісарыяты, у якіх яны знаходзяцца на воінскім уліку.

Ваенныя білеты ваеннаабавязаных і пасведчанні прызыўнікоў, асуджаных да пазбаўлення волі, у тым ліку ўмоўна асуджаных да пазбаўлення волі з абавязковым прыцягненнем да працы, пасля ўступлення прыгавору ў законную сілу перасылаюцца судамі ў адпаведныя ваенныя камісарыяты.

Урачэбна-працоўныя экспертныя камісіі і органы сацыяльнага забеспячэння мясцовых Саветаў народных дэпутатаў абавязаны ў сямідзённы тэрмін паведамляць адпаведным раённым (гарадскім) ваенным камісарыятам аб усіх ваеннаабавязаных і прызыўніках, прызнаных інвалідамі незалежна ад групы інваліднасці.

Кіраўнікі жыллёва-эксплуатацыйных і іншых арганізацый, прадпрыемстваў, устаноў, што ажыццяўляюць эксплуатацыю дамоў, а таксама домаўладальнікі абавязаны своечасова прадстаўляць у адпаведныя ваенныя камісарыяты і выканаўчыя камітэты сельскіх і пасялковых Саветаў народных дэпутатаў, на якія ўскладзена вядзенне персанальнага першаснага ўліку, дамавыя кнігі, рэгістрацыйныя і ўліковыя воінскія дакументы на жыльцоў, што з'яўляюцца ваеннаабавязанымі або прызыўнікамі, для афармлення прыёму іх на воінскі ўлік, зняцця з уліку або зверкі ўліковых даных, а таксама паведамляць ваеннаабавязаным і прызыўнікам пры выкліку іх у ваенныя камісарыяты.

Грамадзяне без пэўнага месца жыхарства абавязаны знаходзіцца на воінскім уліку ў бліжэйшым ваенным камісарыяце або выканаўчым камітэце сельскага (пасялковага) Савета народных дэпутатаў.

Ваеннаабавязаныя і прызыўнікі пры змяненні ў іх сямейнага становішча, месца жыхарства, адукацыі, месца работы і пасады абавязаны ў сямідзённы тэрмін паведаміць аб гэтым ва ўліковы орган, у якім яны стаяць на воінскім уліку.

**Артыкул 41. Адказнасць за парушэнне правіл воінскага ўліку**

Кіраўнікі і іншыя службовыя асобы прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый незалежна ад форм уласнасці і ўмоў гаспадарання, якія перашкаджаюць выкананню грамадзянамі абавязкаў па воінскаму ўліку або не выконваюць абавязкаў, прадугледжаных гэтым Законам, а таксама ваеннаабавязаныя і прызыўнікі за парушэнне ўстаноўленых правіл воінскага ўліку, што заключаецца ў няяўцы ў ваенны камісарыят без уважлівых прычын, псаванні або страце ўлікова-воінскіх дакументаў, несвоечасовым паведамленні ва ўліковы орган, у якім яны стаяць на воінскім уліку, звестак аб перамене месца жыхарства, месца работы і пасады, нясуць адказнасць у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

## РАЗДЗЕЛ VII. Прызыў па мабілізацыі і дэмабілізацыя

**Артыкул 42. Прызыў на ваенную службу па мабілізацыі і наступныя прызывы на ваенную службу ў ваенны час**

Агульная або частковая мабілізацыя аб'яўляецца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.

Наступныя прызывы ваеннаабавязаных і прызыўнікоў у ваенны час праводзяцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Для паведамлення ваеннаабавязаным і пастаўшчыкам тэхнікі на прадпрыемствах, ва ўстановах і ў арганізацыях ствараюцца ўчасткі і штабы паведамлення, а для адпраўкі іх па мабілізацыйнаму плану — пункты збору ваеннаабавязаных і тэхнікі.

З грамадзянамі, якія прыцягваюцца ў апарат узмацнення ваеннага камісарыята, на ўчасткі, у штабы паведамлення і пункты збору ваеннаабавязаных і тэхнікі, рэгулярна праводзяцца заняткі (трэніроўкі) па выкананню імі абавязкаў, прадугледжаных мабілізацыйнымі планамі.

Пры аб'яўленні мабілізацыі ўсе ваеннаабавязаныя, якія знаходзяцца да гэтага часу на ваенных зборах, затрымліваюцца да асобага распараджэння і могуць быць прызваны на ваенную службу. Водпускі ваеннаслужачых, у тым ліку і тэрміновай службы, спыняюцца, ваеннаслужачыя вяртаюцца ў свае воінскія часці.

З аб'яўленнем мабілізацыі рашэнні раённых (гарадскіх) прызыўных камісій аб прадастаўленні грамадзянам прызыўных узростаў адтэрміновак і вызваленняў ад прызыву, прынятыя пры правядзенні чарговых прызываў на ваенную службу, адмяняюцца. Далейшае прымяненне адтэрміновак і вызваленняў ад прызыву, устаноўленых артыкуламі 15 і 16 гэтага Закона, акрамя адтэрміноўкі і вызвалення па стану здароўя, прыпыняецца.

Пры аб'яўленні мабілізацыі і наступных прызывах у ваенны час могуць быць прызваны на ваенную службу ваеннаабавязаныя і прызыўнікі ва ўзросце ад 18 гадоў да гранічнага ўзросту знаходжання ў запасе, устаноўленага гэтым Законам. У ваенны час Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь можа быць зніжаны прызыўны ўзрост і павышаны гранічны ўзрост знаходжання ў запасе.

Прызыў на ваенную службу па мабілізацыі і наступныя прызывы на ваенную службу ў ваенны час ажыццяўляюцца ваеннымі камісарыятамі.

Залічваць грамадзян на ваенную службу, у тым ліку і ў добраахвотным парадку, мінаючы ваенныя камісарыяты, забараняецца.

У мэтах ажыццяўлення нармальнай работы прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый рэспублікі пры мабілізацыі, іх планамернага пераводу на работу ва ўмовах ваеннага часу і забеспячэння бесперабойнай работы ў ваенны час органаў дзяржаўнай улады і кіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый у мірны час праводзіцца браніраванне высокакваліфікаваных кіруючых работнікаў, спецыялістаў, рабочых і служачых з ліку ваеннаабавязаных.

Браніраванне ваеннаабавязаных ажыццяўляецца шляхам прадастаўлення ім адтэрміновак ад прызыву на ваенную службу па мабілізацыі і наступных прызываў у ваенны час у парадку, які вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 43. Абавязкі і адказнасць грамадзян і кіраўнікоў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый за невыкананне мерапрыемстваў па прызыву пры мабілізацыі і наступных прызывах у ваенны час**

Ваеннаабавязаныя і прызыўнікі пры аб'яўленні мабілізацыі і наступных прызывах на ваенную службу ў ваенны час абавязаны з'явіцца ў пункты ў тэрміны, указаныя ў іх мабілізацыйных прадпісаннях, у атрыманых павестках ваенных камісарыятаў або ў загадах раённых (гарадскіх) ваенных камісараў.

Выканаўчыя камітэты мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, кіраўнікі прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый незалежна ад форм уласнасці і ўмоў гаспадарання пры аб'яўленні мабілізацыі і наступных прызывах у ваенны час абавязаны забяспечыць своечасовае паведамленне ваеннаабавязаным і іх дастаўку на зборныя пункты або ў воінскія часці.

Грамадзяне, якія не з'явіліся па прызыву пры мабілізацыі або наступных прызывах у ва-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

